*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№ 467 • Люты 2000 г.**
Год выд. 50

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A.

## *КААЛІЦЫЯ АБАРОНЫ ДЭМАКРАТЫІ Й ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ*

## СТАРШЫНЯ ВС БЕЛАРУСІ СЯМЁН ШАРЭЦКІ Ў ВАШЫНГТОНЕ

*Прэсавы камунікат*
*7 лютага 2000 г.*

Старшыня 13-га Вярхоўнага Савету Беларусі Сямён Шарэцкі правёў у Вашынгтоне гэтымі днямі шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі заканадаўчай і выканаўчай улады ЗША з мэтай паінфармаваньня амэрыканскіх палітыкаў аб сучасным палажэньні ў Беларусі ды пагрозе беларускай дзяржаўнасьці з боку расейскага шавінізму, на паслугах якога стаіць незаконны прэзыдэнт Рэспублікі Аляксандар Лукашэнка.

2-га лютага адбылося спатканьне ў Дзяржаўным Дэпартаманце з намесьнікам дзяржсакратара Троўбам Талбатам. Сп. Шарэцкага суправаджалі два дэпутаты ВС, былы Старшыня ВС сп. Станіслаў Шушкевіч і сп-ня Людміла Гразнова. У гутарцы з наведнікамі сп. Талбат выказаў падтрымку беларускім дэмакратам у іхным супрацоўніцтве зь міжнароднай грамадзкасьцю на карысьць дэмакратыі й незалежнасьці Беларусі.

Прайшла таксама гутарка з памочнікам дзяржсакратара па справах правоў чалавека, Гаральдам Когам. Сп. Шарэцкі і сп-ня Гразнова расказалі пра самаволю дзяржаўных органаў у Беларусі ды факты пагвалчаньня правоў чалавека.

Таго самага дня сп. Шарэцкі й ягоныя калегі правялі гутарку з кангрэсмэнам Стэні Гоерам, сябрам кангрэсавае Гэльсынскае камісіі й заступнікам старшыні Парлямэнцкае Асамблеі АБСЭ. Госьці кангрэсмэна Гоера паінфармавалі яго пра тупіковае палажэньне ў Беларусі з працэсам перамоваў паміж дэмакратычнай апазыцыяй ды уладай, а таксама пра пагрозу беларускай дзяржаўнасьці з боку расейскага шавінізму. Тэма гэтая прагучэла таксама напярэдадні ў выступленьні Старшыні 13-га ВС перад шматлікай аўдыторыяй у канфэрэнцзалі радыястанцыі «Свабода».

Дэлегацыя беларускіх заканадаўцаў склала візыт кангрэсмэну Сэму Гэйдэнсону, бацька якога паходзіць зь Беларусі ды які зацікаўлены ў падтрымцы дэмакратыі й незалежнасьці Беларусі.

У сваіх выступленьнях спсп. Шарэцкі й Шушкевіч ды сп-ня Гразнова паведамлялі таксама пра дэманстрацыі, якія заплянаваныя ў Беларусі ды ў некаторых эўрапейскіх сталіцах на абарону беларускае дэмакратыі й незалежнасьці. Гэткія дэманстрацыі адбудуцца 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі), 25 сакавіка (Дзень Волі) і 26 красавіка (Чарнобыльскі Шлях).

Бліжэйшымі днямі адбудуцца яшчэ іншыя сустрэчы сп. Шарэцкага з высокімі прадстаўнікамі ўладаў, у тым ліку са сьпікерам Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША кангрэсмэнам Дэнісам Гастэртам.

Падобныя спатканьні й гутаркі сп. Шарэцкі правёў у Канадзе, адкуль ён і ягоная жонка сп-ня Галіна Шарэцкая прыбылі ў ЗША 29 студзеня.

Кааліцыя Абароны Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі заклікае ўсіх сваіх сяброў і прыхільнікаў падтрымаць змаганьне беларускіх дэмакратаў правядзеньнем пікетаў салідарнасьці ў Нью-Ёрку, Вашынгтоне ды іншых гарадох Амэрыкі.

*Прэсавы камунікат*
*9 лютага 2000 г.*

8 лютага 2000 г. быў апошнім днём візыту ў Вашынгтон Старшыні 13-га ВС Беларусі. Сп. Шарэцкі правёў тыдзень у Вашынгтоне ў сустрэчах з высокімі ўрадаўцамі, а таксама прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў. Мэтай ягоных сустрэчаў было знайсьці падтрымку змаганьню за дэмакратыю ў Беларусі ды паінфармаваць урад ЗША аб палітычным становішчу ў рэспубліцы. Пры кожным спатканьні сп. Шарэцкі выкарыстоўваў нагоду, каб расказаць пра дыктатарскі бяспраўны рэжым незаконнага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі.

У апошні дзень свайго побыту ў Вашынгтоне сп. Шарэцкі меў шэраг вельмі важных сустрэчаў. Ураньні ён правёў менш фармальныя гутаркі са сп. Роджэрам Патоцкім у Нацыянальным Фондзе Падтрымкі Дэмакратыі, а таксама з былым паслом ЗША ў Беларусі Дэйвідам Сўорцам.

Папаўдні таго самага дня сп. Шарэцкі меў грунтоўную гутарку са сп. Маркам Мэдышам, старэйшым дараднікам па справах Расеі, Украіны і Эўразіі Нацыянальнай Рады Бясьпекі. Сустрэча трывала ў два разы даўжэй, як было заплянавана. Сп. Шарэцкі расказаў пра тэрор, праводжаны рэжымам Лукашэнкі, у тым ліку задушваньне мірных дэманстрацыяў і неабгрунтаваныя арышты сяброў дэмакратычнае апазыцыі. Ён прасіў палітычнае, юрыдычнае й эканамічнае падтрымкі з боку Злучаных Штатаў ды міжна-

*(Працяг на бач 2)*



## ВЫШЭЙШЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЧЫНОЎНІКІ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЭРЫКІ ПАДЗЯЛЯЮЦЬ ІНТАРЭСЫ БЕЛАРУСКАЙ АПАЗЫЦЫІ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА ЎЗНАЎЛЕНЬНЕ ДЭМАКРАТЫІ Ў НАШАЙ КРАІНЕ

Пра гэта паведаміла 9 лютага дэпутат Вярхоўнага Савета, сябра аргкамітэту Хартыі '97 Людміла Гразнова. Сваё першае інтэрвію яна дала супрацоўніку прэсавага цэнтру Хартыі Аляксею Шыдлоўскаму.

— Мая паездка праходзіла ў рамках візыту, які арганізавала Міжнародная Ліга па правох чалавека. Гэтая паездка была зробленая, як бы і сумесна і асобна для мяне і для Сямёна Шарэцкага, старшыні Вярхоўнага Савету. У яго былі свае асобныя сустрэчы, некаторыя нашыя сустрэчы былі сумесныя.

— *Якія сустрэчы можна назваць асноўнымі?*

— Сярод асноўных сустрэчаў галоўнай зьяўлялася сустрэча са Стробатам Тэлбатам, дзейсным Дзяржаўным сакратаром. Падкрэсьліваю, менавіта дзейсным, таму што калі ў ад'езьдзе Мадлен Олбрайт, дык чалавек, які яе замяняе, зьяўляецца Дзяржаўным сакратаром. Гэта была самая высокая сустрэча паміж беларускай апазыцыяй і амэрыканскімі кіруючымі коламі за апошнія некалькі гадоў. Таксама былі сустрэчы з Харальдам Ко, адказным за правы чалавека (яго яшчэ называюць «правай рукой» Мадлен Олбрайт), з сэнатарам Сэмам Гейденсэнам і кангрэсмэнам Стэні Хоерам, якія займаюцца «беларускім пытаньнем» у гэтых структурах. Таксама было шмат іншых сустрэч на больш дробным узроўні, у тым ліку мной былі наведаны Дзяржэпартамэнт ЗША, Савет бясьпекі, фонды, якія дапамагалі Беларусі.

— *Якія галоўныя вынікі паездкі?*

— Асноўным вынікам я лічу тое, што амэрыканцы ўспрынялі наш боль, нашыя эмоцыі і разьдзялілі нашыя інтарэсы, выкарысталі іх як стымул для дзеяньняў стратэгічнага пляну, якія яны маюць намер выконваць. Гэта ў агульным, а калі ў прыватнасьці, то амэрыканцы атрымалі дадатковыя аргументы й зьвесткі ад прадстаўнікоў беларускай апазыцыі, яны атрымалі яснае бачаньне, што ў нас робіцца, атрымалі шчырыя парады.

Мы ім паказалі станоўчыя бакі беларускага сувэрэнітэту і, як вынік, яны ўспрынялі наш заклік узмацніць супрацоўніцтва з АБСЭ, яны атрымалі дадатковыя факты і аргумэнты для размоваў з Расеяй і АБСЭ.

Наконт Расеі было сказана некалькі важкіх заўвагаў аб тым, што чым больш Расея будзе паглынаць Беларусь, тым менш у яе будзе шанцаў трапіць у эўрапейскую супольнасьць. Па-другое, ЗША цяпер будзе глядзець, як Пуцін-прагматык будзе змагацца з Пуціным-імпэрыялістам.

Амэрыканцы запэўнілі нас пасьля, што Беларусь — гэта не закрытая тэма, гэта ня цёмная пляма, што тут жывыя людзі са сваімі інтарэсамі, што значная частка насельніцтва імкнецца да незалежнасьці і гэтыя інтарэсы неабходна падтрымаць і дапамагчы рэалізаваць.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## КАНАДА

8 студзеня адбылося сьвяткаваньне Калядаў беларускай грамадой. Вечарыну праводзілі ў доме вядомага архітэктара й мастака Пятра Шварцмана. Трэба адзначыць, што арганізатары сьвята (Аттаўскае Аддзяленьне Згуртаваньня Беларусаў Канады) былі прыемна зьдзіўленыя вялікай колькасьцю гасьцей: на вечарыну прыехала больш сарака дарослых, а разам зь дзецьмі ў сьвяткаваньні ўзяло ўдзел больш 50 асобаў. Так, сёньня Аттава, як і Манрэаль і Таронта, становіцца адным з цэнтраў пражываньня беларусаў у Канадзе.

Са сьвятам гасьцей віншавала Старшыня Рады БНР спадарыня Івонка Сурвілла. Яна пажадала ўсім прысутным, а таксама сваякам на Бацькаўшчыне, добрага здароўя, шчасьця, дабрабыту й выказала спадзяваньні на далейшыя сустрэчы.

Пасьля было сумеснае сьпяваньне калядкаў; адбыўся нават невялікі канцэрт скрыпічнага дуэту Ўлады Шамецькі й Насьці Чаканскай, які з захапленьнем сустрэлі прысутныя. Вялікую цікавасьць выклікала аўтарская прэзэнтацыя карцінаў, маляваных Пятром Шварцманам у Гішпаніі, Італіі, Францыі, Канадзе, разьмешчаных па ўсіх сьценах гэтага дому-галерэі. Была й літаратурная старонка з чытаньнем вершаў Пятром Мурзёнкам.

Вядома-ж, быў прыгожы стол, прыгатаваны нашымі чароўнымі жанчынамі. А да стала — доўгія цікавыя размовы старых сяброў і новых знаёмцаў. Сьвята доўжылася каля сямі гадзінаў і моцна спадабалася ўсім прысутным.

Думаецца, такія сустрэчы ня толькі даюць сьвяточны настрой, дапамагаюць вырашыць жыцьцёвыя праблемы, але й яднаюць нашых людзей на канадыйскай зямлі, якая для большасьці зь іх становіцца другім домам.

**Пётр Дзісенка**

23 студзеня ў Канаду на запросіны прэзыдэнта Лёнданскага Ўнівэрсытэту Пола Довэнпорта прыехаў Сямён Шарэцкі. Наступным днём адбыўся ягоны даклад для студэнтаў, у якім прамоўца насьвяціў сёньняшняе палітычнае ды эканамічнае становішча ў нашай рэспубліцы. Даклад выклікаў надзвычай цікавую дыскусію й пазытыўны водгук. Прэзыдэнт П. Довэнпорт прыняў С. Шарэцкага прыватна й паабяцаў усю магчымую дапамогу для Беларусі.

25 студзеня адбыўся даклад С. Шарэцкага ва ўнівэрсітэце Ватэрлоо, куды ён быў запрошаны спадарыняй Зінай Гімпелевіч, прафэсарам гэтае ўстановы, шчырым беларускім патрыётам. Даклад зрабіў моцнае ўражаньне на студэнтаў і выкладчыкаў. Вечарам гэтага ж дня адбылося спатканьне госьця са студэнтамі зь Беларусі, якія знаходзяцца ў Канадзе на стыпендыях да гасьціні ў спадарства Людмілы й Барыса Рагуляў.

26 студзеня спадарства Шарэцкіх выляцела ў Аттаву, дзе іх спаткала Старшыня Рады БНР спадарыня Івонка Сурвілла. Яна й наладзіла госьцю сустрэчу зь міністрам замежных спраў. Спатканьне было плённае.

29 студзеня спадарства Шарэцкіх адляцела ў ЗША.

Беларуская грамада Канады шчыра дзякуе спадарству за візыту й жадае ім посьпеху ў абароне беларускага сувэрэнітэту й вернасьць нашым ідэалам.

**Барыс Рагуля**



*Новая беларуская царква ў Адэляідзе, Паўдзённая Аўстралія*

## СЯМЁН ШАРЭЦКІ Ў ВАШЫНГТОНЕ

*(Працяг з бач. 1)*

родных арганізацыяў на аднаўленьне дэмакратыі ў Беларусі. Сп. Шарэцкі заклікаў таксама быць уважлівым, каб фінансавая дапамога, якую ЗША даюць Расеі, не выкарыстоўвалася Расеяй на фінансаваньне лукашэнкаўскага рэжыму. Сп. Мэдыш выказаў устрывожанасьць цяперашнім станам рэчаў у Беларусі. Ён выявіў таксама разуменьне цяжкасьцяў, якія мае Беларусь у сувязі са сваім геаграфічным становішчам. Тым ня менш, ён аптымістычна глядзіць на магчымасьці Беларусі аднавіць у сябе дэмакратыю.

Пасьля гутаркі ў Нацыянальнай Радзе Бясьпекі сп. Шарэцкі наведаў Капітоль, дзе сустрэўся са сьпікерам Палаты Прадстаўнікоў Дэнісам Гастэртам ды з кангрэсмэнам Крыстофэрам Сьмітам, старшынём Кангрэсавай Гэльсынскай Камісіі. Сп. Шарэцкі падзякаваў заканадаўцам за падтрымку, якую ЗША даюць 13-му Вярхоўнаму Савету Беларусі. Ён таксама падкрэсьліў, што праблемы, перад якімі цяпер стаіць Беларусь, павінны разглядацца незалежна ад дачыненьняў паміж Злучанымі Штатамі й Расеяй. Сьпікер Гастэрт выказаў разуменьне, што стабілізацыя палажэньня ў Беларусі важная ня толькі для далейшага лёсу гэтай краіны, але й для стабільнасьці цэлага рэгіёну вакол яе. Кангрэсмэн Сьміт як старшыня Кангрэсавае Гэльсынскае Камісіі заклікаў сп. Шарэцкага наведаць ізноў Злучаныя Штаты, каб выступіць са сьветчаньнямі перад Кангрэсам адносна фактаў пагвалчаньня правоў чалавека рэжымам Лукашэнкі. Ён таксама распытваў сп. Шарэцкага аб магчымых шляхах дапамогі дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі ў ейным змаганьні.

Кааліцыя Абароны Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі ўважае, што вашынгтонскія сустрэчы сп. Шарэцкага сьведчаць аб далейшым прызнаваньні Злучанымі Штатамі легітымнасьці 13-га ВС РБ. Тое, што сп. Шарэцкі правёў спатканьні на такім высокім узроўні, гаварыць аб моцным падтрымваньні Амэрыкай дэмакратыі ў Беларусі.



*30 студзеня адбылася сустрэча беларускай грамады Нью Ёрку са сп. С. Шарэцкім*

Падчас размоваў з жыхарамі Парыжу неаднойчы даводзілася чуць з гонарам ужыванае вызначэньне гэтага гораду — «сталіца сьвету». І сапраўды, трэба адзначыць, што няшмат знойдзецца на нашай плянэце мейсцаў, якія б у такой ступені заслугоўвалі на гэты ганаровы «тытул». Вось ужо некалькі стагодзьдзяў Парыж і ягоныя прадмесьці застаюцца мацнейшым «пунктам прыцягненьня» для мастакоў і палітыкаў, актораў і пісьменьнікаў, авантурнікаў і навукоўцаў, эканамічных і палітычных эмігрантаў–прадстаўнікоў ці ня ўсіх этнасаў і жыхароў ці ня ўсіх дзяржаваў, якія толькі йснуюць на Зямлі. Жыцьці й лёсы гэтых людзей, іхныя справы ды творы сталіся тымі нябачнымі ніцямі, лік якіх ідзе ўжо на мільёны, што назаўжды зьвязалі з гэтым дзіўным касмапалітычным горадам шматлікія народы й краіны, часта аддаленыя ад яго на многія тысячы кілямэтраў.

Зусім натуральна, што не магла застацца па-за гэтаю сусьветнаю сувязьзю й нашая Беларусь. Выключна цікавая гісторыя беларуска-парыскіх (а шырэй, і беларуска-французкіх) дачыненьняў, на жаль, не атрымала пакуль адпаведнага асьвятленьня ў гістарыяграфіі (магу адаслаць зацікаўленага чытача толькі да майго ж невялічкага агляду "Gallia Albaruthensie, або Пяць стагодзьдзяў беларускае прысутнасьці ў Францыі» у № 2 часапіса «Спадчына» за 1999 г.). Здаецца, менавіта таму нават няблага адукаваны Беларус зь цяжкасьцяй уяўляе сабе, якім чынам ягоная краіна можа быць зьвязанаю з далёкай «сталіцай сьвету». Дарэчы, на маю думку, адсутнасьць гэткіх уяўленьняў наўпрост зьвязаная з агульнаю праблемай нявызначанасьці нашага мейсца ва ўсёй сусьветнай «сыстэме кардынатаў». І вось жа, здаецца, ёсьць нешта глыбока сымбалічнае ў тым, што менавіта ў Парыжы, у 1643 г., студэнт тутэйшае Акадэміі Іван Ужэвіч стварыў першую ў гісторыі граматыку старабеларускае («русінскае») мовы, а яшчэ праз 200 гадоў, у 1840-м, адзін з пачынальнікаў навуковае беларусаведы Аляксандар Рыпінскі тут жа выдаў сваю слынную "Białorus". Неад'емнымі складнікамі гарадзкога ляндшафту французкае сталіцы назаўсёды сталіся й касьцёл Сьв. Севярына, упрыгожаны альтарнымі карцінамі Валентага Ваньковіча, і славутая Гранд-Апэра з пляфонам, размаляваным гэніяльным пэндзлем Марка Шагала, і музэй-майстэрня Восіпа Задкіна, і вуліца Льва Бакста... Сьцены аўдыторыяў тутэйшых навучальных установаў памятаюць лекцыі Адама Міцкевіча й Аляксандра Ходзькі, Мікалая Лоскага й Міхася Наумовіча... У «сталіцы сьвету» атрымалі сваю адукацыю Тадэвуш Касьцюшка, Ігнат Дамейка, Напалеон Орда, Лявон Вітан-Дубейкаўскі, Хаім Суцін і шматлікія іншыя, вядомыя й ня вельмі, ураджэнцы «Зямлі пад Белымі Крыламі», сярод якіх, дарэчы, і сёньняшні Прэзідэнт Рады БНР Івонка Сурвілла. Такім чынам, мусім упэўнена канстатаваць, што наяўнасьць згаданых нябачных ніцяў паміж Парыжам й Беларусяй не падлягае ніякаму сумніву.

# ПАРЫЖ

## ЧАСЬЦІНА БЕЛАРУСІ Ў ЦЭНТРЫ «СТАЛІЦЫ СЬВЕТУ»

Больш за тое, у самым цэнтры гэтага амаль мітычнага гораду ёсьцека мейсца, пра якое мала сказаць, што яно «зьвязанае зь Беларусьсяй». Невялічкая кватэра ў доме XVII стагодзьдзя за № 65 па вуліцы Гравіе, у 10 хвілінах ходу ад Нотр-Даму й у 15-ці — ад Луўру, ёсьць сапраўднаю часьцінай Беларусі, «плоць ад плоці» нашае краіны-маці. Прынамсі, я ўпэўнены, што такое ўражаньне складваецца ў кожнага, хто ўпершыню трапляе сюды. Гэткаму адчуваньню садзейнічаюць ня толькі паўсюдная беларуская сымболіка, беларускія карціны на сьценах і беларускія кнігі на паліцах. Само тутэйшае паветра, здаецца, да краю напоўненая «флюідамі беларушчыны». Тое й не надасца дзіўным, калі ведаць, што ў гэтай кватэры ў сэрцы «сталіцы сьвету» Беларусы без перапынку мешкаюць ужо амаль семдзесят год, з пачатку 1930-х. Прычым варта адзначыць, што ўвесь гэты час еўнымі ўладальнікамі й насельнікамі застаюцца толькі сапраўдныя беларускія патрыёты-нацыяналістыя. Ня думаю, што памылюся, калі заўважу: гэткага «стажу» беспераппынная напоўненасьці «беларускім духам» ня мае сёньня ніводнае памешканьне ня толькі ў замежжы, але й у самой Беларусі. Ужо толькі гэты факт робіць кватэру на вуліцы Гравіе мейсцам унікальным і нават рэліквійным для ўсіх Беларусаў.

Што ж датычыцца ейнае найноўшае гісторыі, то ў скароце яна выглядае наступным чынам. Памешканьне было набытае ў пачатку 1930-х гг. Хаўрусам беларускіх работнікаў у Францыі на імя аднага зь ягоных кіраўнікоў (верагодна, старшыні Хаўрусу Янкі Буйвілы) і адразу ж сталася штаб-кватэраю ўсяго беларускага руху ў Францыі. У 1937-1940 гг. тут месьцілася рэдакцыя часапісу «Рэха» (у 1937 г. выходзіў пад назваю «Бюлютэнь Хаўрусу беларускіх работнікаў у Францыі»). У 1947 г. у гэтых сьценах паўстала Сусьветнае аб'яднаньне беларускае эміграцыі, а ў 1949-м — Кардынацыйны камітэт беларускіх арганізацыяў у Францыі. У 1945-1947 гг. тут рыхтаваўся першы паваенны пэрыёдык беларускае дыяспары — газэта «Беларускія Навіны», у 1948-1951 гг. — часапіс «Моладзь», а ў 1951 г. — газэта «За Волю». Па Другой сусьветнай вайне, калі ў кватэры на вуліцы Гравіе жыў Прэзідэнт Беларускае Народнае Рэспублікі Мікола Абрамчык, яна, фактычна, займела высокія функцыі «Дому Ўраду» БНР ды сусьветнага цэнтру «крывіцкае» плыні беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Істотныя зьмены ў статусе парыскага «беларускага дому» адбыліся ў пачатку 1960-х гг., калі ягоным фактычным гаспадаром стаўся рэктар Беларускае каталіцкае місіі ўсходняга абраду ў Францыі а. Леў Гарошка. За часы тутэйшага жыцьця гэтага славутага беларускага рэлігійнага й грамадзкага дзеяча, гісторыка, пісьменьніка ды філёзафа, нашая кватэра ператварылася з палітычнага ў духоўны, навуковы й культуральны цэнтар эўрапейскае беларускае дыяспары. У ёй паўсталі найбуйнейшая ў тагачаснай Заходняй Эўропе беларускамоўная ды беларусаведчая бібліятэка й багаты архіў. З 1969 г. і па сёньняшні дзень тут знаходзіцца рэктарат Беларускае каталіцкае місіі.

На жаль, 1970-я гг., калі а. Леў канчаткова пакінуў Парыж, сталіся часам пачатку заняпада названага цэнтру. У Ангельшчыну была перавезеная значная частка ягоных бібліятэчнага ды архіўнага збораў, якія стварылі аснову фондаў Беларускае бібліятэкі й музэя імя Францішка Скарыны ў Лёндане (адчыненая ў 1971 г.). Аднак, трэба адзначыць, што далёка ня ўсе дакумэнтальныя матэрыялы з Парыжу трапілі тады за Ля-Манш. Некаторыя зь іх засталіся на вуліцы Гравіе. З 1977 г., пасьля сьмерці а. Льва Гарошкі, яны перайшлі ў валоданьне да новага рэктара парыскае грэка-каталіцкае місіі а. Аляксандра Надсана, які ёсьць, аднача сна, апостальскім візытарам Беларусаў-уніятаў, галавою Беларускае каталіцкае місіі ў Вялікай Брытаніі і, дарэчы, дырэктарам лёнданскае Скарынаўкі. Існуе вопіс гэтых дакумэнтаў, што быў зроблены ў 1988 г. з ласкавага дазволу а. Аляксандра, аўтарам гэтых радкоў і які пакуль што застаецца ў рукапісу. Што датычыцца яшчэ аднае значнае часткі названага дакумэнтальнага збору, то я маю сур'ёзныя падставы меркаваць, што яна трапіла ў прыватныя архівы некаторых прадстаўнікоў беларускае дыяспары ў Францыі. Выяўленьне ды апісаньне гэтых матэрыялаў зараз цалкам залежыць ад добрае волі гэтых шаноўных людзей.

Такім чынам, вышэйпаданы сьціслы нарыс гісторыі «беларускае кватэры» ў цэнтры Парыжу, які, між іншым, зусім не прэтэндуе на абсалютную паўнату й дакладнасьць (бо для гэтага патрэбныя адмысловыя сур'ёзныя досьледы, якімі яшчэ ніхто ніколі не займаўся), аднача сна ёсьць і нарысам гісторыі фармаваньня збору дакумэнтаў, што захоўваліся там да пачатку 1970-х гг., а часткова захоўваюцца й зараз. На маю думку, аналіз матэрыялаў, якія там засталіся сёньня, дазваляе зрабіць наступныя высновы: на вуліцы Гравіе мэтадычна адкладаліся дакумэнты ўсіх арганізацыяў і установаў, што дзеялі ў Парыжы з пачатку 1930-х гг. Пазьней да іх далучыўся багаты асабісты архіў а. Льва Гарошкі, які да 1971 г. стала папаўняўся новымі матэрыяламі. У складзе тамтэйшае бібліятэкі знаходзіўся вельмі цікавы фонд эміграцыйнае пэрыёдыкі, значная частка якога, зь невядомых прычынаў, так і ня была перавезеная ў Лёндан. Згодна зь іхным паходжаньнем, усе матэрыялы сёньняшняга збору кватэры можна ўмоўна падзяліць на наступныя часткі: 1) рэшта асабістага архіву Льва Гарошкі, арганічнымі складнікамі якога ёсьць справы Беларускае каталіцкае місіі ў Францыі, якую ён узначальваў у 1946-1977 гг., і часапіса «Божым Шляхам», рэдагаванага ім у 1947-1957 гг.; 2) дакумэнты Каардынацыйнага цэнтру беларускіх арганізацыяў у Францыі; 3) частка архіву Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, якое йснавала на правах сэкцыі Францускае канфэдэрацыі работнікаў-хрысьціянаў і ў якасьці нацыянальнага прафсаюзу ўдзельнічала ў працы міжнародных прафсаюзных арганізацыяў; 4) магнітная стужка «Заканчэньне школьнага году ў інтэрнаце Сьв. Кірылы Тураўскага. 13.07.1963»; а таксама збор пэрыёдыкаў.

Напрыканцы хацелася б адзначыць, што цяперашні стан «беларускае кватэры» ў Парыжу, на маю думку, на жаль не адпавядае ейнай багатай мінуўшчыне ды значэньню ў гісторыі беларускае дыяспары ў Францыі, дый у сьвеце. Найбольшую заклапочанасьць выклікае ступень забяспечаньня захаванасьці вышэйзгаданых дакумэнтальных матэрыялаў, якія сёньня амаль ніяк не абароненыя ад магчымага раскраданьня або зьнішчэньня (нават не наўмыснага). А між тым, іхная каштоўнасьць як гістарычных крыніцаў асабіста мне здаецца даволі значнаю. У якасьці магчымых шляхоў да зьмяненьня сытуацыі (калі зацікаўленыя асобы вырашаць, што яно неабходнае) маю прапанаваць наступныя: або стварэньне на базе кватэры на вуліцы Гравіе ды ейных збораў парыскага філіялу лёнданскае Скарынаўскае бібліятэкі; або паўстаньне там мэмарыяльнае кватэры-музэю, магчыма — пад эгідаю Беларускае каталіцкае місіі ў Францыі, Хаўрусу беларусаў у Францыі ды Рады БНР, як установаў, чыя гісторыя найбольш зьнітаваная з гэтым мейсцам; або, нарэшце, ягонае уваходжаньне ў структуру плянаванага Цэнтру беларускіх досьледаў у Парыжу, да ўдзелу ў фундацыі якога нашая французская дыяспара заклікае ўсе незалежніцкія беларускія арганізацыі. Ва ўсялякім выпадку, я ўпэўнены: унікальная скарбніца «беларускага духу» ў «сталіцы сьвету» цалкам заслугоўвае на ўдзячную увагу ўсіх, каму не абыякавыя беларушчына й гісторыя беларускае прысутнасьці ў Францыі ды ў сьвеце, а ейныя зборы — на ўвядзеньне ў навуковы ўжытак дасьледнікаў гэтае гісторыі.

**Ігар Ляолькоў**



## ФІНЛЯНДЫЯ

### ПРА СЯБЕ, БЕЛАРУСАЎ І БЕЛАРУСКІЯ СПРАВЫ

У Фінляндыі я апынулася ў лістападзе 1997 г., прабыўшы да гэтага месяц у Маскве. Прычынай майго ад'езду з Беларусі быў распачаты беларускімі ўладамі й КГБ працэс супраць Аляксея Шыдлоўскага й Вадзіма Лабковіча. У верасьні 1997 г. сьледчы КГБ Шэршань запрасіў мяне даваць паказаньні супраць хлапцоў. Па парадзе Камітэту па правах чалавека БНФ, які сачыў за разьвіцьцём справы са жніўня, у КГБ я не пайшла й праз Беларускі ПЭН-клюб мяне хутка адправілі ў Маскву, а пасьля ў Фінляндыю пры дапамозе расейскага й фінскага ПЭН-клюбаў і фінскага Саюзу журналістаў. Па прыбыцьці ў Фінляндыю я афіцыйна папрасіла палітычны прытулак, які пасьля 16-месячнага разгляду справы фінскімі ўладамі атрымала. Калі я атрымлівала ў паліцыі паперы, адзін з паліцыянтаў мне сказаў, што запытаньне з беларускай амбасады ў Латвіі да фінскай амбасады выряшыла справу на маю карысьць. Зьмест запытаньня зьяўляецца сакрэтам, але супрацоўнік з аддзелу па справах замежнікаў сказаў, што хутчэй за ўсё беларускай амбасада патрабавала маёй высылцы.

За два гады ў краіне я здолела больш-менш зарганізаваць сваё жыцьцё. Яшчэ ў 1998 г. паступіла ва ўнівэрсытэт на факультэт ангельскай філялёгіі, а ў 1999 г. на факультэт паліталёгіі. На шчасьце, у Фінляндыі адукацыя бясплатная. Фінскую мову ведаю ўжо нядрэнна, нават на ўніверсытэцкія заняткі пляную хадзіць. З мовай адна толькі праблема: усе фіны так добра размаўляюць па-ангельску, што няма як практыкаваць мову. Пасьля заняткаў хаджу на курсы гідаў й па заканчэньні буду мець працу гідам у Гельсінках.

Напрыканцы усіх інтэрвію фінскія журналісты звычайна пытаюцца, ці зьбіраюся я вяртацца на Беларусь. На гэта заўсёды адказваю: «Безумоўна, пры першай магчымасьці і з добрай адукацыяй».

Пра дзейнасьць нашай супольнасьці, на жаль, можна распавесьці ў некалькіх сказах, бо з беларусаў нас тут Якуб Лапатка ды я. Да новага году былі таксама Васіль Быкаў з жонкаю, а ў сярэдзіне лютага павінен прыехаць Ул. Някляеў. Пісьменьнікі прыяжджаюць па усталяванай міжнародным ПЭН-клюбам праграме Safety Cities, ідэя якой — даць магчымасьць перасьледуемым на радзіме пісьменьнікам спакойна працаваць. Па дамове горад дае кватэры, Міністэрства адукацыі вызначае стыпендыі, а фінскі ПЭН-клюб клапоціцца пра добры настрой пісьменьніка. Васіль Уладзіміравіч казаў, што ў такіх цёплых умовах яму яшчэ не даводзілася працаваць.

На жаль, з-за вучобы й працы я ня так часта наведвала спадарства Быкавых, але кожны раз мяне частавалі сапраўднай вячэрай: Ірына Міхайлаўна — бульбай ці дранікамі, а Васіль Уладзіміровіч — сьвежазваранай кавай. У нашыя сустрэчы з Васілём Уладзіміравічам мы гаварылі пра гісторыю, эканоміку, палітыку, жыцьцё на Беларусі, бо ён слухаў «Свабоду» часьцей, ці я распавядала, што вывучыла новае пра Фінляндыю. Пра Беларусь гаварылі, пазіраючы на мапу, што вісела над сталом. На ёй Менск быў пазначаны бел-чырвона-белым сьцяжком. Гэты сьцяжок я выпадкова знайшла на рынку ў Гельсінках й набыла адразу ўсе.

Васіль Быкаў пазнёміў мяне з дзейнасьцю беларускай супольнасьці ў Амэрыцы. Праз яго даведалася пра існаваньне газэты «Беларус», пра В. Кіпеля, Л. Савёнка, К. Акулу. Калі ў студзені ён зьбіраўся з'яжджаць на Беларусь, у падарунак пакінуў бібліятэчку, што назьбіралася за гэты час і якая мне вельмі дарагая. Яна дапамагае не забыць мову, бо чуць і размаўляць на ёй даводзіцца нячаста.

З-за невялікай колькасьці беларусаў дзейнасьць наша праходзіць у вузкіх рамках — распаўсюджваньне інфармацыі пра Беларусь. Пры дапамозе Якуба Лапаткі я зрабіла некалькі выступаў у навучальных установах. Часта прыходзіцца даваць інтэрвію газэтам, часапісам, радыё й тэлебачаньню. Пры дапамозе маладых журналістаў, зацікаўленых пытаньнем правоў чалавека, інфармацыя даходзіць да Швэцыі й Нарвегіі. У Швэцыі сытуацыяй на Беларусі цікавіцца фундацыя Olofa Palme, што нават дасылала карэспандэнта на сустрэчы з беларускімі палітыкамі апазыцыі, якія наведвалі Фінляндыю ў якасьці назіральнікаў за выбарамі ў сакавіку летась. Ілона Лаурікайнен, вядомая рэжысорка дакумэнтальных стужак, здымае фільм пра жыцьцё на Беларусі для фінскага дзяржаўнага тэлебачаньня. Ад імя Маладога Фронту наладжваю кантакты з фінскімі маладзёвымі арганізацыямі палітычных партый, студэнцкімі арганізацыямі. Адной з важнейшых падзеяў быў сэмінар EDS (European Democrat Students), што адбываўся ў Гельсінках з 9 па 12 сьнежня.

**Аліна Бельская**

---

*Разьбіраючы рэдакцыйны архіў, мы знайшлі карэспандэнцыю, якая па нейкіх прычынах у свой час ня трапіла на бачыны «Беларуса». Сёньня, праз 8 гадоў з моманту яе напісаньня, яна падалася нам цікавою, бо ўспрымаецца ўжо не як звычайнае паведамленьне, а хутчэй як гістарычнае сьведчаньне.*

**Рэдкалегія**

# З гісторыі арганізацыйнага жыцьця Беларусаў Заходняй Аўстраліі

Назоў свой Заходняя Аўстралія атрымала ад свае лякацыі на аўстралійскім кантыненьце. Па велічыні прасторы — гэта найбуйнейшы штат Аўстралійскае Фэдэрацыі (1.300.000 км$^2$, жыхарства — 1,5 мільёна). Сталіца — горад Пэрт з больш як паўмільёнам насельніцтвам. У ягоных ваколіцах сканцэнтраваная індустрыя. Па-за межамі Пэрта — гаспадаркі, шахты, а на ўзьбярэжжы рыбацкі промысел і порты.

Пасьля заканчэньня II Сусьветнай вайны фэдэральны ўрад Аўстраліі скіраваў палітыку на шлях разбудовы краіны. Але выканаць гэта з прычыны недахопу людзей было складана, таму ўрад даў магчымасьць жадаючым пасяліцца ў Аўстраліі. Першыя эмігранты прыбылі ў Заходнюю Аўстралію ў сярэдзіне 1948 году. Былі між імі й беларусы, якія прыехалі зь Нямеччыны й Англіі. Прыезд сюды аплочвала дзяржава. За гэтую магчымасьць кожны эмігрант павінен быў адпрацаваць два гады на вызначанай яму працы. Пасьля гэтага ён мог звальняцца й сам шукаць сабе працу.

Раскіданым па цэлым штаце беларусам было цяжка ўтрымаць нейкую лучнасьць між сабою. І толькі з прыбыцьцём большай колькасьці суродзічаў у 1949—50 гг. становішча зьмянілася да лепшага. Да гэтае пары некаторыя з нашых наладзілі сувязь з Францыяй і Нямеччынай, адтуль пачалі атрымоўваць газэты «За Волю» дый «Бацькаўшчына».

Боль за паняволеную Беларусь прывёў да яднаньня. Гэтак, пасьля падрыхтоўчых захадаў, 6 студзеня 1951 году ў памешканьні Міхася Раецкага адбылася агульная зборка беларусаў, на якой была заснаваная першая беларуская арганізацыя ў Заходняй Аўстраліі — Аддзел Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў (АЗБВ). Кіраўніцтва арганізацыі складалася з наступных становішчаў: старшыня, сакратар і скарбнік. Галоўнай працай яе было: прыдбаньне сяброў, адзначэньне нацыянальных сьвятаў і навязаньне кантактаў з чужынецкімі арганізацыямі ды афіцыйнай арганізацыяй пад назовам Good Neighbor Council. Як вынік супрацоўніцтва з гэтай арганізацыяй, у 1953 г. АЗБВ прыняў удзел у міжнацыянальнай выстаўцы, якая адбылася ў залях гарадзкой управы Пэрту. У 1954-м, зь ініцыятывы тае ж арганізацыі, беларусы ў нацыянальнай вопратцы разам зь іншымі этнічнымі групамі віталі каралеву Элізабэту й ейнага мужа Піліпа ў часе іх адведаньня Пэрту.

Да гэтай працы трэба дадаць і інфармаваньне аўстралійскіх установаў, палітыкаў ды этнічных групаў пра сытуацыю на Беларусі й жаданьне беларускага народу быць вольным і незалежным.

У 1958 г. дзеля таго, што сябрамі АЗБВ былі толькі мужчыны, а жанчыны свае арганізацыі ня мелі, на агульнай зборцы было пастаноўлена зьмяніць назоў арганізацыі на Беларускае Аб'еднаньне, каб гэтым даць магчымасьць удзелу ў грамадзкай працы шырэйшаму колу людзей. Не было занядбанае рэлігійнае жыцьцё, бо яшчэ зімою 1956 г. у Пэрце быў адчынены прыход БАПЦ, настаяцелем якога стаў айцец Барыс Камінскі. Год пазьней прыбылі ў Пэрт архіепіскап Сяргей і айцец Мадэст Яцкевіч. Праваслаўныя службы Божыя адпраўляліся ў Пэрце да сярэдзіны 1965 г. У гэтым жа годзе архіепіскап Сяргей выехаў з Пэрту ў Адэлайду (Паўдзённая Аўстралія), не прызначыўшы ў наш прыход сьвятара.

Тут трэба адзначыць, што ад часу заснаваньня прыходу тут быў пабудаваны дом, у адной палове якога жыў архіепіскап Сяргей, а ў другой адпраўляліся багаслужбы. Па ад'езьдзе архіепіскапа Сяргея частка дому была здадзеная ў арэнду (для бясьпечнасьці), а ў другой адбываліся зборкі й іншыя імпрэзы. У жыцьці БА ў ЗА гэты час можна назваць «ціхім пэрыядам». Але на пачатку 1983 г. грамадзкая дзейнасьць пачала ажыўляцца.

5 сакавіка 1983 г. у радыёстанцыі 6 НР мы дамагліся беларускіх радыёпраграмаў, аднак месца ў эфіры атрымалі толькі амаль праз год, ды й тое з цяжкім боем. Запачаткаваныя тады радыёпраграмы ідуць у эфір і сёньня. Праўда, праграмы невялікія — паўгадзіны на тыдзень, а гэта дзеля таго, што за іх трэба даплочваць па 15 даляраў за паўгадзіны эфіру. Іншыя выдаткі, зьвязаныя з праграмамі, пакрываюцца з уласнай кішэні. На даплату за радыёчас прысылаюць грошы беларусы з Сыднэю, Мэльбурну, Адэлайды, а таксама др. Б. Кіт, зь Лёндану — ЗБВБ, А. Лашук, з Канады — др. Р. Жук-Грышкевіч, з ЗША — С. Карніловіч, К. Калоша, А. Сацэвіч, А. Міцкевіч, др. Я. Запруднік, М. Грэбень, К. і М. Верабей ды іншыя. Не забываюцца на свае абавязкі ў гэтым кірунку й суродзічы з Заходняй Аўстраліі, дасылаюць і небеларусы.

Калі ж у другой палове 1986 г. на кіраўнічыя становішчы прыйшла моладзь, узмоцнілася дзейнасьць навонкі. Пісаліся лісты да савецкага й аўстралійскіх урадаў у справах Кукабакі, Кумейшы, Сядова ды іншых. У справе прызнаньня Аўстраліяй незалежнасьці Беларусі прадстаўлялі праблемы Беларусі на канфэрэнцыях Сусьветнае Лігі Свабоды; бралі ўдзел у дэманстрацыях; пашыралі інфармацыі аб чарнобыльскай бядзе на Беларусі; на дапамогу пацярпелым ад радыяцыі суродзічам зьбіралі ахвяры; пасылалі дапамогу й на Беласточчыну; распаўсюджвалі беларускую прэсу й кніжкі. Пры арганізацыі створаная бібліятэка, у якой ёсьць амаль усе эміграцыйныя выданьні.

У другой палове 1991 г. аднавілі прыход БАПЦ, настаяцелем якога служыць айцец Уладзімер Зайка. На жаданьне прыхаджанаў а. Уладзімер адпраўляе службы Божыя кожную другую нядзелю ў англіканскай царкве сьвятое Марыі ў Заходнім Пэрце. Некаторыя прыхаджане выказваюцца за здабыцьцё свае царквы, але на гэта патрэбна 70 тысяч даляраў, якіх сабраць тут мы ня можам.

16 верасьня 1992 г., дзякуючы стараньням сп. Міхася Ёлаба, Беларускае Аб'еднаньне ў Заходняй Аўстраліі было афіцыйна зарэгістраванае пад назовам Belarusan Association in West Australia.

**Міхась Раецкі-старэйшы**
*Кэнінгтан*
*22 кастрычніка 1992 г.*

# З БОГАМ — ПА-БЕЛАРУСКУ

**УЛАДЗІМЕР ЖЫЛКА**

*Я — грамнічная сьвечка прад Богам.*
*Ціхай, ціхай згараю малітвай*
*За блакітную к небу дарогу,*
*За ўзрунелыя зелена рытвы.*

*Ўсемагутны! Вось сэрца паэты —*
*За народ Твой Крывіцкі ахвяра!*
*Дым кадзільны — жар вершаў —*
*прад сьветам*
*Узнашу да Цябе па-над хмары.*

*Мы абвеяны злой сухавеяй,*
*І балот душыць ліпкая плесьня,*
*І дарма зацьвіталі надзеяй,*
*І дарма сьнілі сны на прадвесьні.*

*Ў бездарожжы зблудзілі глыбока,*
*Пацямнеў цёмны шлях наш цярновы…*
*Не адмоў нам паслаці прарока*
*З цьвёрдай верай і словам агнёвым!*

*Цішу досьвіткаў цьмяных*
*Абуджаю жальбою вялікай:*
*Расчашы Ты сівізну туману,*
*Празіяй жыватворным Аблікам!*

*Да Цябе уздыхаюць са мною*
*Капытом здратаваныя нівы,*
*На аблогах — бадыльнік з лазою*
*І чарот па-над ставам шумлівы;*

*Уздыхае кароўка-худоба,*
*І авечка на голым папары,*
*І каняка схіляе з жалобай*
*Галаву пад нязьмерным цяжарам.*

*Узгляніся!.. Зьлітуйся над ніцым!..*
*Маё гора усёды, усёды:*
*Мае сьлёзы — ў дажджох навальніцы,*
*Мае енкі — у стогне народу.*

*І туга мая — зь ветрам на полі,*
*Мая смага — гаючай крыніцы:*
*Няхай будзе і праўда, і воля,*
*Твая Воля на роднай зямліцы!*

Грамнічная сьвечка — заўсёдная сьведка кананьня. Яна — сымбаль усяго нашага жыцьця: разгараецца, зачароўвае сьвятлом і цяплынёй, запальвае надзеяй. Але яна — апошняя сьвяча, апошняя малітва. Усё, што паэта мае, апошняе й самае дарагое, — «жар вершаў» — ён складае на аўтары за тое, пра што марыў й жыў надзеяй чаго: «Няхай будзе й праўда і Воля, Твая Воля на роднай зямліцы».

Божая воля й жаданьне — каб жыў чалавек так, як Ён задумаў. Толькі нам не стае мудрасьці (ды й шмат чаго яшчэ, мабыць), каб тую волю зьдзейсьніць, — дазволім сабе працягнуць паэтавую думку. Ён даў шмат, даў дастаткова, каб быць нам шчасьлівымі, а таксама каб быць разам, быць народам. Пра гэта просіць паэта: «Будзь воля Твая».

Верш упершыню надрукаваны ў зборніку «На ростані» (Вільня, 1924) і звычайна датуецца 1924 годам. У той час Уладзімер Жылка жыў у Празе, там жа знаходзіўся ўрад БНР і вялікая колькасьць беларускіх студэнтаў. А на Беларусі — спляценьне паваеннай галечы, уздыму нацыянальнага жыцьця, лютага бальшавізму й польскай акупацыі. Каму верыць, дзе праўда, дзе збаўленьне? Сэрца паэты залівалася крывёй: Жылка неверагодна моцна любіў Беларусь. Ейныя цярпеньні станавіліся ягонымі таксама.

Некаторыя радкі гэтага верша пераклікаюцца зь іншым цудоўным творам паэты:

*Падарожным, Божанька,*
*Ды ня лёгка йсьці.*
*Не відаць дарожанька —*
*Цяжка ў бесьпуцьці.*

*З тропу, сьцежкі роднае*
*Зьбіліся дзяды,*
*І гады нягодныя*
*Замялі сьляды.*

*А душа мужычая*
*І да гэтых пор*
*Па старому звычаю*
*Моліцца да зор*

*Нашы сёстры, мацеркі*
*Сэрцам у жальбе,*
*Пацеры у пацеркі*
*Ніжуць да Цябе.*

*Над мінучай славаю,*
*Гучнаю, як звон,*
*Над вялікай справаю,*
*Кінутай ў палон.*

Гэты верш — нібы пакутная песьня пілігрыма, што шукае пацяшэньня ў няспраўджаных надзеях, шукае сэнсу далейшага шляху цярпеньняў. Лепш за М. Скоблу тут не скажаш: «Малітва ператвараецца ў пацеркі, што нагадваюць ружанец, слова малітоўнае ўвечніваецца ў бурштынавыя каралі, жаль людзкі набрыньвае сьлязой беларускай сасны».

Гэтыя два вершы — не сэнтымэнтальны плач па страчаным і неаднойдзеным. Малітоўнае іх прачытаньне прабуджае да стваральнага дзеяньня.

# НАШТО ХАВАЦЬ ДЗЁНЬНІК МАКСІМА БАГДАНОВІЧА?

*А супраць крытыкі скажу:*
*Хваробу лечаць і атрутамі.*
*Максім Багдановіч*

Людзі гавораць: ніхто табе не паможа, як сам сабе не паможаш. Гэта пра нас, беларусаў. Тых, што заўсёды апялююць да іншых (думак, народаў, урадаў), што заўсёды просяць, клічуць, плачуць. Якія ніколі нічому ня ў стане навучыцца на сваіх памылках і робяць тыя самыя памылкі па другім, па трэцім коле.

Мой дзед быў чалавекам суворым, але справядлівым. Калі адзін зь ягоных сыноў, гайсаючы на панадворку, першы раз зламаў нагу, быў лепшай нянькаю таму. Калі сын зламаў нагу другі раз — лячыў, але неяк моўчкі. Калі ж сын неўзабаве зламаў нагу трэці раз, дык замест спачуваньня атрымаў ад бацькі яшчэ й кухталь, маўляў, ужо час навучыцца не ламаць.

Ніколі не падабаліся мне ані аналёгіі з расейцамі, ані паралелі з палякамі. Але тут не магу ўтрымацца. Першыя з задавальненьнем друкуюць «Дон Жуанскі сьпіс» Пушкіна, разважаюць пра гіперсэксуальнасьць паэты й пры гэтым ня лічаць яго меншым прарокам. Калі ж другія, палякі, — згодна нашым гіпотэзам, — зьнішчылі беларускамоўныя творы Міцкевіча, мы абураемся. А самі разам з тым ня хочам надрукаваць дзёньнік свайго паэты, свайго нацыянальнага генія — Максіма Багдановіча. Вядома, зь іншымі прасьцей разабрацца, парады даць ці то чарговы раз паапеляваць да гісторыі-мачахі. Да сваіх уласных справаў неяк не даходзіць — ані галава, ані рукі.

Нам больш выпадае гуляцца ў тую гульню, якую выдумаў сабе тэксталягічны аддзел Інстытута Літаратуры Нацыянальнай Акадэміі Навук (здаецца, менавіта гэтак яна сёньня называецца), начальнік якога, М. Мушынскі, неяк (у 1990 годзе) выдаў кніжачку «І нічога, апроч праўды: якой быць «Гісторыі беларускай літаратуры» (праўда, крыху перад тым, у 1987 г., калі, здаецца, ужо можна было дазволіць сабе не баяцца, не ўтрымаўся ды выдаў кнігу іншага зьместу — «Літаратура і ідэалагічная барацьба: некаторыя аспекты фальсіфікацыі беларускай літаратуры на Захадзе». Гэты Мушынскі наагул вялікі змагар за праўду. Яшчэ адна ягоная кніга называецца «Праўдзівая гісторыя Міхася Зарэцкага»).

Дык я пра гульню — «праўда, толькі праўда, нічога, апроч праўды». Гульня ў тым, што аддзел рыхтуе да друку быццам бы Поўны Збор твораў пісьменьніка Х., потым тлумачыць, які быў неўдзячны гістарычны час для праўдзівай падрыхтоўкі, выдае дадатковы том, потым «знаходзіць» у архівах тэксты, якія проста не ўкладаліся ў канцэпцыю раней, друкуе іх, потым друкуе тыя купюры, што былі ў першым выданьні — і так бясконца. І пры гэтым няспынна апраўдваюцца: быў такі час, такія людзі, мы ня ведалі, а вы былі негатовыя.

Апошні па часе прыклад — новы трохтамовы «Поўны Збор твораў» Максіма Багдановіча, выдадзены ў першай палове 90х г. Поўны — гэта значыць, што ў яго ўключана ўсё, што ведама на сёньняшні момант навукоўцам. Я не спэцыяліст па Багдановічу, але магу сказаць: збор ня поўны.

Упершыню я пачуў пра таямнічы дзёньнік М. Багдановіча ад прафэсара А. Сабалеўскага, калі той прыяжджаў у 1996 годзе на Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Праўда, гісторыя тая была цьмяная: дзёньнік быццам захоўваўся ў Акадэміі Навук, а потым зьнік. Вось як здараецца: адныя марацьадшукаць зьніклы ў даваенныя гады архіў паэты, наракаюць на эмігрантаў, што вывезьлі ці маглі вывезьці на Захад, а другія тым часам дапамагаюць зьнікнуць паперам сёньня. Зрэшты, цалкам магчыма, што гэта тыя самыя людзі. Хто ведае.

Сьлед дзёньніка знайшоўся даволі хутка — у Музэі Максіма Багдановіча, што ў Траецкім прадмесьці. Здаецца, там яму й належыцца быць, можна супакоіцца. Але вось што цікава: анідзе я ня змог адшукаць хоць якія зьвесткі пра той дзёньнік, хоць бы якія згадкі, ня кажучы пра самую публікацыю. А ўсе спробы атрымаць копію не пакідалі аніякай надзеі нават на павярхоўнае азнаямленьне з тэкстам.

То чаму ж прыхоўваецца ад нас дзёньнік? У мяне на тое ёсьць некалькі тлумачэньняў. Па-першае, напісаны ён у расейскай мове. Гэта быццам бы разьбівае нашае ўяўленьне пра Багдановіча як беларускага паэту, хоць вядома й ягонае выхаваньне, адукацыя, ды, зрэшты, сам кантэкст. Таму гэта не аргумэнт — як для сур'ёзных дасьледчыкаў.

Па-другое, зьмест дзёньніка. Аб ім меркаваць да разважаць даволі складана — з чужых словаў. Але складваецца уяўленьне, што гаворка там ідзе не пра адраджэньне нацыі, не пра літаратуру. Дзёньнік асабісты, прыватны, інтымны — не такія, як пішуць сёньня пісьменьнікі: атрамант не пасьпеў прасохнуць, як старонка ляціць у друк. Дзёньнік Багдановіча — інтымны, але па-іншаму, як у Казіміра Сваяка. Гэта дзёньнік маладога чалавека (ці трэба нагадваць, у якім веку паэта пакінуў сьвет?), хворага на сухоты — хваробу, што абвастрае пачуцьці, у тым ліку й фізыялягічныя, сэксуальныя.

Тыя, хто дзёньнік бачыў і касьцьмі ляжыць на ягоным шляху да друку, сьцьвярджаюць, што публікацыя скампраментуе, дыскрэдытуе паэту. Тут я не магу сьцьвяміць: альбо мы вызнаем Багдановіча адным з найбольшых нашых геніяў і ў такім выпадку нішто ня ў стане дыскрэдытаваць яго; альбо Багдановіч — выдуманы намі міт, і тым больш важна надрукаваць дзёньнік — дзеля здабыцьця праўды.

Шчыра кажучы, другі варыянт прыведзены выключна *як магчымая* альтэрнатыва, але я сам не даю яму веры. Бо постаць Максіма Багдановіча, ягоная творчасьць, спадчына — адныя з найбольш каштоўных старонак нашае гісторыі, літаратуры, нашае Творчасьці. І ўсё знойдзенае, апублікаванае можа толькі ўзбагаціць нас саміх, а не падзейнічаць адмоўна на Яго. Хутчэй тут страх парушыць трываласьць сваіх уяўленьняў, непарушнасьць уласных высноў, сыметрыку звыклай карціны, а ня дбаньне праўды, толькі праўды й нічога, апроч праўды, у дачыненьні да Паэта.

**Лявон Юрэвіч**



## ГІСТОРЫЯ

### БЭРЛІН, ЯНКА СУРВІЛЛА

*Пасьля Першае Сусьветнае вайны ў Бэрліне быў ведамы хіба толькі адзін беларус — Андрэй Бароўскі, якога БНР дэлегавала ў гэты горад у якасьці свайго консула. А. Бароўскі зьяўляўся консулам да 1927 г., выдаючы пашпарты на выезд за мяжу.*

*Паходзіў Андрэй Бароўскі з памешчыцкай сям'і з Магілёўшчыны, нарадзіўся, па недакладных зьвестках, у 1870 годзе. Па заканчэньні гімназіі паступіў на гістарычна-філялягічны факультэт. Выехаў у Бэрлін пасьля рэвалюцыі 1917 г., дзе й пабраўся зь немкаю. Ведаючы добра мовы, ён зарганізаваў у Бэрліне Бюро перакладаў і да пачатку Другой Сусьветнай вайны гэтым зарабляў на пражыцьцё. Ад 1941 да канца 1943 г. ён працаваў у «Вінэце». Памёр А. Бароўскі ў сакавіку 1944 г.*

*Калі ў Бэрліне паўстаў Тымчасовы Камітэт Бэрлінскага Аддзелу Самапомачы, А. Бароўскі ўзначаліў яго, стаўшыся старшынёю, а сябрамі — В. Камароўскі, А. Крыт, Б. Барткевіч. Праўда, асаблівай актыўнасьцю гэты склад Камітэту ня вызначыўся.*

*Калі Янка Сурвілла 22 кастрычніка 1943 г. трапіў у Бэрлін, гэта быў ужо іншы Камітэт. Пра ягоную дзейнасьць — успаміны, напісаньне якіх перарвала сьмерць. Постаць аўтара, ягонае месца ў нашае гісторыі — тэма асобнай гутаркі. Варта хіба толькі зазначыць, што яшчэ ў 1939 г. часапіс «Шлях Моладзі» з нагоды дзесяцігодзьдзя свайго існаваньня зьмясьціў фотаздымак групы супрацоўнікаў з подпісам «П. Кайкоўскі, І. Шусьціцкі, Я. Багдановіч, Я. Найдзюк, А. Шутовіч, наймалодшы й пачынаючы паэт Сурвілла, Я. Пітушка і Я. Ляховіч». У пазьнейшыя часы Янка Сурвілла (20.06.1925-3.06.1997) — сябра Рады БНР, заснавальнік часапісу «Шляхам Жыцьця» ў Ватэнштэце, сакратар Сусьветнага Зьезду Беларускай Эміграцыі ў Парыжы (1948), рэдактар і аўтар першых беларускіх перадачаў на Гішпанскім Нацыянальным Радыё, старшыня Аттаўскага Згуртаваньня Беларусаў Канады.*

*Янка Сурвілла выехаў у Нямеччыну да ваеннапалоннага дзядзькі (меўся замясьціць яго на фарме, даўшы такім чынам яму магчымасьць паехаць на Беларусь), сам ратуючыся ад партызанаў, якія спалілі школу, дзе працаваў Янка, ды палявалі за настаўнікам. Прыехаў ён у Бэрлін маючы толькі 18 гадоў.*

*Л.Ю.*



*На здымку: У Камітэце. Адольф Буката і Янка Сурвілла. 1944 г.*

На другі ці трэйці дзень пасьля майго прыезду ў Бэрлін мой дзядзька Казік Дурэйка павёз мяне ў Беларускі Камітэт. Гэта было вечарам, ужо было цёмна. Ехаць давялося даўгавата, бо ад Шлэзішэр Бангоф, дзе ён жыў, да Альт Моабіт даволі далёка.

У Камітэце было некалькі асобаў, зь якіх, як пасьля даведаўся, бальшыня былі мясцовыя наведвальнікі. Усе мяне абступілі як сьвежа прыбыўшага з Бацькаўшчыны і абсыпалі пытаньнямі аб палажэньні ў Беларусі: як жывуць людзі, чым жывуць, што думаюць, як разьвіваецца беларуская нацыянальная справа? У канцы хтосьці папрасіў мяне (здаецца, Янка Палонны) прыехаць у Камітэт днём. Гэта я й зрабіў назаўтра. Праўда, не абышлося гэта бяз цяжкасьцяў. Я-ж ня ведаў і не памятаў, як мы туда ехалі, там больш, што было цёмна. Дык вось, мой дзядзька Казік тлумачыў мне, як трэба ехаць, як дабрацца да Камітэту. Зь нейкім непакоем, як той «дзядзька ў Вільні», выбраўся я ў падарожжа па Бэрліну. І мушу прызнацца, што мне не зусім пашанцавала. Сеў я не на той цягнік — на Рынгбагн — і праезьдзіў укружок да абеду, аж пакуль ня здаў сабе справы, што мне паўтараюцца тыя самыя станцыі. Ветлівыя людзі памаглі мне выбрацца з гэтага лябірынту, і, пераседшы на патрэбны мне цягнік, я хутка даехаў да станцыі Бэльвю. Адтуль пехатою ня так далёка да Брэдов Штрасэ 8, дзе знаходзіўся Камітэт.

У Камітэце паклікаў мяне ў сваё бюро ягоны старшыня Мікола Абрамчык. Ён распытваў мяне вельмі шмат, стараўся даведацца найменшых дэталяў, асабліва пра нацыянальнае жыцьцё, пра школьніцтва — паколькі я-ж быў настаўнікам. У канцы ён мне запрапанаваў застацца працаваць у Камітэце. Мне такая прапанова была надта-ж да спадобы, але-ж я прыехаў з дакладна акрэсьленай мэтай. Расказаў яму пра гэта. Мне трэба было на гэта атрымаць згоду майго дзядзькі Міхася. І я гэтую згоду за пару дзён атрымаў. Ён мне сказаў, што магу заставацца, бо ён пакуль што ня думае вяртацца ў Беларусь.

Гэткім чынам я застаўся працаваць у Бэрлінскім Аддзеле Беларускага Камітэту Самапомачы ў Нямеччыне. Гэта было маё першае спатканьне зь Міколам Абрамчыкам, які, як я неўзабаве даведаўся, быў старшынёю Рады БНР. Тады я зь ім спаткаўся першы раз, а наступны раз гэта было ўжо ў Парыжы, у 1948-м годзе. У Бэрліне бачыў яго толькі адзін раз, таму што яму нямецкія ўлады загадалі пакінуць тэрыторыю Райху, і ён вельмі хутка выехаў у Парыж. У той час былі дзьве вэрсыі прычынаў, чаму М. Абрамчыка абвесьцілі *персона нон грата*. Згодна з аднэй, былі зробленыя на яго даносы, а паводле другой — ён не згадзіўся, як старшыня Рады БНР, на супрацоўніцтва зь Немцамі.

Беларускі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне быў заснаваны групай беларускіх дзеячаў у пачатку саракавых гадоў. Я ня ведаю працэсу станаўленьня арганізацыі, бо раней гэтым не цікавіўся, а цяпер ужо няма ад каго даведацца. Таму буду гаварыць толькі пра падзеі, якіх быў або навочным сьведкам, або непасрэдным удзельнікам, гэта значыць, ад канца кастрычніка 1943-га году да канца вайны. Прывяду таксама пару фактаў, пра якія я даведаўся ад маіх супрацоўнікаў у Камітэце, якія там былі да майго прыезду, асабліва ад скарбніка Бэрлінскага Аддзелу БКС Адольфа Букаты. Вось адзін зь іх: Беларускі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне ня меў фармальнага пісьмовага дазволу ад нямецкіх уладаўна на сваё існаваньне і дзейнасьць. Дазвол быў толькі слоўны. Таму тады заўсёды выказваўся непакой, што Камітэт могуць зачыніць у любы мамэнт.

Сябрамі Камітэту ў сваёй пераважнай бальшыні — я сказаў-бы 99,9% — былі беларусы—ваеннапалонныя польскай арміі. У пачатку 1944-га году парадкавы нумар заяваў у сябры арганізацыі перавысіў лічбу 13 000.

Камітэт меў некалькі аддзелаў на тэрыторыі тагачаснага Райху: у Кэнігсбэргу, у Торуню, у Лодзі. Але асноўная маса сяброў была ў Бэрлінскім аддзеле. Быў таксама Камітэт Самапомачы ў Празе, але фармальна гэта была незалежная арганізацыя, бо Багемія лічылася пратэктаратам.

Мэтай Камітэту, які й зазначаецца ў назове, была ўзаемная сяброўская дапамога. Адначасна Камітэт займаўся культурнай працай, асабліва распаўсюджваньнем беларускіх выданьняў. Ня ведаю, адкуль у нас было шмат беларускай літаратуры, выдадзенай у міжваенны пэрыяд у Вільні, якая мела немалы попыт сярод сяброў. Гэтаксама Камітэт меў колькі сваіх выданьняў, у тым ліку зборнік вершаў Ларысы Геніюш *Ад родных ніў* (1942). Таксама былі выдадзеныя каляровыя выявы нацыянальнага гербу Пагоні, здаецца, у трох разьмерах. Была выдадзеная й сэрыя краявідаў Беларусі фатографа-мастака Булгака. Ратататарнай тэхнікай выйшла брашура Міколы Абрамчыка *Беларусь у мапах і ліках.*

Брашура гэтая мела вельмі вялікі попыт і перавыдавалася дзясяткі разоў, бо-ж кожнае выданьне на ратататары абмяжоўвалася да якіх трохсот экзэмпляраў (больш не вытрымоўвалі матрыцы).

Фінансавай базай Беларускага Камітэту Самапомачы ў Нямеччыне былі сяброўскія складкі й даходы з продажу літаратуры. Ніякіх фондаў не атрымоўвалася. Камітэт выдаваў сяброўскія легітымацыі для сяброў, дзе ўклейваліся маркі БКС, выдаваныя за аплату сяброўскіх складкаў. Маркі былі выдадзеныя ў некалькіх дэнамінацыях і колерах.

Калі ходзіць пра дапамаговы бок дзейнасьці арганізацыі, дык мне не прыпамінаецца, каб у мае часы хтосьці прасіў матэрыяльнай дапамогі. Але ў свой час сябры атрымоўвалі вельмі патрэбную для іх нематэрыяльную дапамогу.

Цэнтральныя нямецкія газэты *Фэлькішэр Бэобахтэр* і *Бэрлінэр Анцайгэр* апублікавалі тэксты Жэнеўскіх пагадненьняў адносна ваеннапалонных. Там было сказана пра правы ваеннапалонных і як іх трэба трактаваць. Вось-жа, калі сябры арганізацыі наракалі, што да іх гаспадары-немцы нядобра адносяцца, ім высылаўся адпаведны тэкст Жэнеўскіх пагадненьняў, апублікаваны ў нямецкай прэсе. І гэта памагала. І памагала так добра, што немцы неўзабаве забаранілі Камітэту гэта рабіць. Заўважу, што ў мае часы такіх нараканьняў ужо не было...

З пачаткам маей працы ў Камітэце я не заўважыў ніякага падзелу ці разрозьненьня між Галоўнай Управай БКС і Бэрлінскім Аддзелам гэтай арганізацыі. Пасьля таго, як дэпартавалі Міколу Абрамчыка, функцыі Галоўнай Управы выконвала Ўправа Бэрлінскага Аддзелу да часу прыбраньня новага старшыні Галоўнай Управы, якім стаўся Баляслаў Барткевіч. Ён і быў старшынёю да канца вайны.

Заўважу, што Галоўная Ўправа, як выглядае, складалася толькі з старшыні, і ягоныя функцыі агранічваліся да каардынацыі дзейнасьці аддзелаў. Старшыня Галоўнай Управы БКС працаваў на грамадзкіх асновах.

Старшынёю Берлінскага Аддзелу ў той час быў Др. Станіслаў Грынкевіч. Скарбнікам — Адольф Буката, а хто быў сакратаром, дык ня ведаю. Магчыма, Янка Палонны.

У самым пачатку 1944-га году мяне ўвялі ва ўправу аддзелу як сакратара, і на гэтым становішчы я прабыў да канца існаваньня арганізацыі. Др. Станіслаў Грынкевіч пакінуў старшынства Бэрлінскага Аддзелу, бо

быў пераняў рэдактарства газэты *Раніца*. На ягонае месца прыйшоў Пётра Бакач. Больш зьменаў ва Ўправе не было.

Праца старшыняў не аплочвалася. Яны прыходзілі ў Камітэт пераважна раз у тыдзень, ну й калі была патрэба, утрымоўвалі тэлефанічны кантакт. Платнымі працаўнікамі ў Бэрлінскім Аддзеле БКС былі сакратар і скарбнік Управы, а таксама дапамаговы пэрсанал, які пераважна складаўся зь дзьвюх асобаў: экспэдытара (і разам пасыльнага) і прыбіральніцы.

Беларускі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне мясьціўся на Брэдов Штрасэ 8, у паўночна-заходнім Бэрліне. Гэта быў адзін вялікі пакой, зь непасрэдным уваходам адразу з вуліцы, які служыў і для працы і для спатканьняў вечарамі. Другі, меншы пакой перад тым займаў старшыня, а пасьля ў ім працавалі сакратар і скарбнік. Да гэтага даходзіў маленькі складзік, дзе трымалі запасы літаратуры, паперу, і знаходзілі месца, каб паставіць рататар. Ведаю, што Камітэт наймаў залю для большых зборак і спатканьняў, якая знаходзілася непадалёку, на Турмштрасэ 65.

Але пры мне там ніякіх зборак ужо не адбылося, бо будынак, дзе знаходзілася заля, быў хутка пашкоджаны бомбамі.

У пачатку 1944-га году ўдалося знайсьці абшырнейшае памяшканьне для Бэрлінскага Аддзелу, непадалёку, на Штромштрасэ. Тут мелі вялікую залю, дзе маглі зьбірацца людзі, канцылярыю, і вялікі сухі падвал. Усё гэта надта добра паслужыла, як прыбылі Беларусы з Бацькаўшчыны, у ліпені 1944-га году. Памяшканьне на Бредов Штрасэ было затрыманае, і там меў сваю канцылярыю старшыня Цэнтралі БКС.

* * *

Пачаўся новы разьдзел у маім жыцьці: чужына, вялікі горад, новыя сябры, новае асяродзьдзе і праца, якой дасюль не рабіў.

Першым пытаньнем было знайсьці кватэру. Але тут Янка Палонны запрапанаваў мне жыць разам зь ім. Ён меў вялікі пакой, дзе былі два ложкі і дзьве шафы, гэта значыць, на двух. Вось мы пачалі жыць разам і моцна падружылі. Кватэра знаходзілася на Турмштрасэ (здаецца, нумар 65), якраз над заляй, якую наймаў Камітэт. Гэта быў першы паверх, і больш паверхаў не было ў гэтым доме. Збоку дамы былі чатырох- ці пяці-павярховыя, як і бальшыня ў Бэрліне. Напроціў нашае кватэры, праз вакно бачылі сьпічастую — гатыцкую — сьвятыню. За сьцяною, у процілеглым напрамку ад вуліцы, знаходзіўся невялікі парк, які называўся Кляйн Тіргартэн Парк. А далей, за ім, праходзіла вялікая алея, Альт Моабіт Алеэ.

Бэрлін як горад мне моцна падабаўся: быў чысты, з шырокімі вуліцамі, толькі што моцна сквігацелі трамваі на заваротах. У тым часе я нідзе ня бачыў ніякіх руінаў ці сьлядоў паветраных налётаў. Казалі мне, што дзесьці на акраінах гораду, у індустрыяльных частках, былі спрычыненыя разбурэньні. Але неўзабаве разбурэньні зьявяцца паўсюдна.

Ад нашай кватэры да Камітэту было якіх пяць-сем хвілін хады. Пачыналі мы працаваць а 8-ай гадзіне раніцы, і канчалі, нярэдка, каля поўначы. Адным словам, усё нашае жыцьцё праходзіла, як мы там казалі, «у Камітэце».

З працай цяжкасьцяў не было. Быў у мяне добры настаўнік, Янка Палонны, які ўводзіў мяне ў штодзённую рутыну. Вучань зь мяне быў, здаецца, някепскі, бо хутка пачалі даваць мне вырашаць самастойна некаторыя пытаньні. Прыпамінаю толькі цяжкасьці навучыцца пісаць на матрыцах (васкоўках) для рататара. Справа ў тым, што вельмі лёгка было прабіць дзюрку ў матрыцы, а пасьля заладжваць яе не было так проста, ды і вынікі не былі такія добрыя. Трэба было налаўчыцца шырэйшыя літары біць мацней, а вузенькія, як напрыклад *і*, больш асьцярожна. Але хутка я быў ужо амаль «экспэртам» у пісаньні матрыцай і ў друкаваньні на рататары.

Ладную частку часу на працы займала карэспандэнцыя зь сябрамі арганізацыі. Афіцыяльнай карэспандэнцыі зь нямецкімі ўстановамі амаль не было або здаралася вельмі рэдка.

Як ужо заўважыў, мы фактычна жылі ў Камітэце. Раніцою толькі сьнедалі тое-сёе дома, пераважна эрзацкавай, а ўжо абед і вячэру стараліся знайсьці ў бліжэйшых сталоўках ці рэстаранах. І паколькі бальшыня даньняў была на картке, а тых карткаў нехапала, дык шукалі сталоўкі, дзе давалі «штамгерыхт» — густую зупу з гароднiны (бульба, бручка і іншае), якой можна было напоўніць жывот.

Як ужо ўспомніў, каб пабачыць руіны ў Бэрліне, доўга чакаць не прыйшлося. Першы месяц пасьля майго прыезду быў зусім спакойны, нават не верылася, што дзесьці далёка была вайна. Хіба толькі сьведчылі аб гэтым розныя абмежаваньні. Але вось 22-га лістапада (здаецца, не мыляюся, а калі мыляюся, дык на які дзень), калі гадзіны 10.30 вечара, зараўлі сырэны, якія я чуў першы раз. Уражаньне жудаснае. Зь Янкам Палонным пайшлі збоку ў парк, каб схавацца у «шплітэнграбэн». Гэта было сховішча, выкапанае зыгзакам, сьцены былі абстаўленыя цэмэнтовымі блёкамі, і такімі-ж блёкамі гэты роў быў накрыты. Наверху, насып зь зямлі. Уваход быў з двух канцоў, які зачыняўся дзьвярыма. Уздоўж сьценаў былі лаўкі. Роў быў шырынёю паўтара ці два мэтры і вышынёю ў рост чалавека. Неўзабаве пасьля алярму сховішча было запоўненае, й за хвілін 15 пачала дрыжэць зямля. Спачатку — далей, а пасьля і ў нас. Бомбы енчылі, падаючы, і, пры кожным узрыве, якія адбываліся вельмі часта, зямля хадзіла і ўсё дрыжэла. Кожны стараўся як найглыбей між каленямі схаваць галаву. Ня ведаю, чаму гэта так, але ўсе сядзелі нагнуўшыся, з галавою ўніз. Я думаў, што тут настаў проста канец сьвету, што нікому адсюль жывым ня выйсьці. І так трывала 45 хвілінаў.

На шчасьце, усе людзі з нашага сховішча дачакаліся адклікання небясьпекі і, выйшаўшы навонкі, жахнуліся: ўсё кругом гарэла, вецер ганяў гаручыя кускі нейкіх матэрыялаў, смурод — не прайсьці, не пралезьці. Нам да нашае кватэры, якая, на шчасьце, яшчэ стаяла, было ўсяго мэтраў 50. У кватэры не было шыбаў і былі іншыя пашкоджаньні, але, як крыху ўспакоіліся, маглі пайсьці спаць, праўда, у польтах. У той вечар я скурыў першую цыгарэту і, ап'янеўшы, заснуў.

Назаўтра кругом гарэла, але ўжо расчышчалі, дзе было магчыма, вуліцы й сям-там пачаў хадзіць транспарт. Камітэт ня быў пашкоджаны, і ніхто з нашых не пацярпеў. Усе тады казалі, што паўтарыцца гэта ня можа, бо-ж ужо мала што засталося бамбіць. Радыё паведаміла, што гэта быў налёт тысячы амэрыканскіх самалётаў, першы такога роду на Бэрлін, і ад яго пацярпеў увесь горад. У надзеі, што найгоршае прайшло і мінула, я пачынаў успакойвацца, хіба таксама, як і ўсе іншыя. Але вечарам, а той самай гадзіне, паўтарылася тое самае.

Зноў мы с Палонным цярпелі ў тым-жа самым сховішчы праз 45 хвілінаў. Апісаць таго я дасюль ня ёсьць здольны, гэта можна было толькі перажыць.

Бамбілі па тых самых месцах, па руінах і тым, што яшчэ стаяла. Але зноў нам пашчасьціла, выйшлі жывымі. Кватэра яшчэ стаяла, і Камітэт не атрымаў ніякіх пашкоджаньняў. Гэтым разам, аднак, я не вытрымаў. Пачуў, што ўлады сарганізавалі эвакуацыю насельніцтва з гораду, але у нашай зоне трэба было дабрацца нейкім чынам у Шпандау Вэст. Я ўзяў невялікія клумкі, асабліва зь ядою, што прывёз зь Беларусі, глянуў на мапу і пайшоў па разбураных вуліцах, абыходзячы й пераступаючы ўсялякія электрычныя правады, у напрамку паўночнага захаду.

Ішоў цэлы дзень (здаецца, 12 кіляметраў) і вечарам, каля гадзіны 10-ай, дабраўся да чыгуначнай станцыі Шпандау Вэст, адкуль кожных 10 хвілін адыходзіў цягнік. Бязь цяжкасьцяў я ад'ехаў у напрамку Вітэмбэрге-Людвігслюст. Проста выбраўся да майго дзядзькі Мароза.

*(Працяг у наступным нумары)*



*ЯНКА ЮХНАВЕЦ*

## *ВЕРШЫ*

…уночы апынуўся я.
Аднаасобным чуўся я,
быць у летняй цемрадзі між сенажацяў.
…людзкіх слухаў не жадаў пачуць.
…вакно любая твае
месяцам і ня зорамі асьвятлялася.
…уяўнасьць зорную пазнаваў ува
затульлі.
…вогнішча запаліў на сенажаці.
Полымя захлынствае у адвал
цемрадзь.
Сьляды сьвятла кідаюць перад мной
не капіць твае любімая
на разьвіцьцё раніцы заўтрашняй.

### *А ЧАС АД ЧАСУ ЯЎНЫ*

…наракаўся усім чым мог, — быцьцём!
бяз тлумачэньня сабе самому.
…сьведчаньні накідваліся зарокам
ад мацеры й бацькі, — нараджоны імі
быў!
…усім, ад часу асьветнага сабой, —
жыву,
разбудлівасьцяй жыцьця гарэзяў
у свой пагляд бяз жаласьці невядомай
кідаўся бяз агляду самаму-сабе.
…напэўна, супакоіцца няцесна
наўвалоньні мацеры.
…ёсьць, было, і ёсьць адменная —
юнаком ты больш ня можаш!
…скліны званістыя,
найбольш увечары іх званіцаў усялякіх,
славяць Бога:
напаткаў шарападобную Зямлю ў небе.
Яна яму люботная!
…із таго Часу: мне, і майму суседу,
праўда сьмерці ведамна
асталявалася!

* * *

…весьняную почку расьці ня спыніш —
вясной улашчаная яна
на дрэвах й кустарніках побач —
бывае.
…заўтра мо не разьвітаецца —
вянок завітны зь іх:
прыгоствам моўкным —
твар ворагу айчыннаму не прыкрыць.
…якое не сьмехатворнае ад сябе пачуць!

### *<ІЗ САЦРЭАЛІЗМУ>*

…сорам жыцьця часта-радзьва гнецім і
ганьбім.
… спакусы й спачуваньні аўрэзьлівыя
між свае хлусьні
знойдзеныя учора перажываем.
Смутныя былі яны у сьценях
трояў усялякіх —
нічога іншага не знайсьці сапраўднасьцяў.
…утратай пакідалася што збудзецца
цяпер
між днём або ўночы
блізу падобнае уроўньні
галіне з дрэваў ветрам абарваная.

## СЬВ. ПАМЯЦІ АННА МЕЛЬЯНОВІЧ

4 студзеня 2000 г. сьвет пакінула Анна Мельяновіч з дому Майсак, пакінуўшы ў смутку дачок Вольгу й Кацярыну, сына Васіля, унучак Веру, Люсю, Еву, Любу, Соню, Анну і ўнукаў Джоні й Расела.

Анна Мельяновіч нарадзілася 10 сьнежня 1916 г. ў вёсцы Азярніца Лунінецкага раёну Берасьцейскай вобласьці. Перажыўшы цяжкую савецкую акупацыю, Анна з мужам Пятром і дзецьмі выехала ў Нямеччыну, дзе працавала на фабрыцы. Пасьля вайны сям'я апынулася ў лягерох для ўцекачоў, адкуль у 1950 г. выехалі ў ЗША. Тут Анна жыла й працавала да самай пэнсіі. Радавалася таму, як дзеці і ўнукі расьлі на радасьць Беларусі і ЗША.

Апошнім часам Анна належала да Беларускай царквы ў Richmond Hill, NY.

Па характару Анна была вельмі гасьцінная, дабразычлівая. Прырода шчодра адарыла яе рознымі талентамі: яна цудоўна сьпявала, рукадзейнічала. А галоўнае — дарыла сваю душэўную цеплыню й любоў усім добрым людзям.

Пахаваньне адбылося з Беларускае царквы на Richmond Hill, NY. Цела было аддадзена зямлі на Саўтрыверскіх Беларускіх праваслаўных могілках.

Вечная памяць Табе, мама й бабуля!

## АХВЯРАВАНЬНІ НА ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | $234 |
| Марэк Рэдзімскі (Польшча) | 100 |
| Г. Наумчык | 50 |
| Б. і Ю. Касьцюкевіч | 50 |
| Э. Пітушка | 50 |
| А. Тальянскі | 30 |
| Л. Дуранкоў | 30 |
| Л. Галубовіч | 30 |
| А. Філістовіч | 30 |
| Э. Маркоўская | 20 |
| В. Целіца | 15 |
| Янка Юхнавец | 10 |
| А. Канеўскі | 10 |
| Р. Станкевіч | 10 |
| Т. Красоўская | 10 |

*Фінансавая справаздача ад С. Трыгубовіча*

| | |
|---|---|
| М. Ганько (у памяць Міколы Ганько) | 200 |
| Я. Сажыч | 100 |
| А. Монід | 100 |
| Г. Бахар | 100 |
| Я. Баран (у памяць Міколы Ганько) | 67 |
| М. Русак | 60 |
| В. Балтрушэвіч | 60 |
| Я. Сажыч (у памяць Міколы Ганько) | 50 |
| М. Русак | 50 |
| С. Шабовіч | 40 |
| М. Бахар | 30 |
| В. Лазар | 33.5 |
| Б. Русак | 30 |
| А. Даніловіч | 30 |
| Л. Корчык | 30 |
| П. Міравовіч | 30 |
| Н. Дробіна | 23.5 |

**Аўстралія**
*(аўстр. даляры)*

| | |
|---|---|
| Віталі Міленцэвіч | 100 |
| У. Акавіты | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| А. Руткевіч | 50 |
| Я. Оршанскі | 50 |
| М. Кастышын | 50 |

**Кастусь Акула**

# НЕЗАГОЕНЫЯ РАНЫ

Час — найлепшы лекар, ён усё гоіць...

Так яно ці не?

Паўстагодзьдзя мінула, пакуль надышоў той доўгачаканы дзень, і я змог прайсьці па сьцежках роднай вёскі. Некалі было тут прынамся дваццаць пяць гаспадарак, цяпер — усяго восем.

А дзе ж падзеліся мае аднагодкі, маё пакаленьне? Бачу двух калекаў, адзін кантужаны, другі — на кавёлах, з адрэзанай да калена нагою.

Дзе ж, пытаюся, падзеліся іншыя?

Адказваюць скупа, баючыся: «Падмялі на "даешь Берлин" усю моладзь і некуды на вайну пагналі»...

Ведама, што выконваўся плян, спушчаны зьверху, ад «бацькі ўсіх народаў», генэралісымуса: ліквідаваць тых, што былі пад варожай акупацыяй. Бэрлін яшчэ ня быў здабыты, а тут, у нанова акупаванай Беларусі (ды й у суседніх краінах) маскоўскі тыран ужо пачаў вайну з паняволенымі народамі.

Сёлета ў красавіку трапіў да мяне ліст зь Беларусі, у якім расказваецца, як практычна рэалізоўваўся той загад маскоўскае пачвары.

*«...Я шчыра дзякую Вам, Кастусь, за кнігі, якія Саша Б. даў мне пачытаць, гэта «Змагарныя дарогі» й «Гававатка». З героямі кнігі «Змагарныя дарогі» я была добра знаёмая асабіста. Гэта вучні Нясьвіскай сэмінарыі: С-к Шура, яго сястра В-я, Г-ч Н., П-і К., аб якім нічога ня ведаю па сёньняшні дзень, бо ён ухіляўся ад сустрэчы са мной пасьля арышту.*

*Гэтыя людзі для мяне вельмі дарагія, бо гэта яны памаглі мне ўсьвядоміць — хто я ёсьць? Аб гэтым мне хацелася б расказаць асобна; вельмі цікавае і важнае здарэньне ў маім жыцьці, зразумець, што я такае, як яны. Іх размовы, іх дзеяньні былі мне блізкія па духу й майму разуменьню, хаця я была маладзшая за іх на 4—6 гадоў (я вучылася ў 5—6 кл.) а яны — у Нясьвіскай сэмінарыі й жылі ў нас на кватэры.*

*Калі фронт прыбліжаўся, паўстала пытаньне: што рабіць? Яны й іншыя сэмінарысты не адзін раз зьбіраліся ў нашым доме й раіліся, выказвалі свае думкі. Адныя вагаліся, а другія давалі свае прапановы. Мне вельмі запомніўся Г-ч Н., які рашуча заяўляў: «Я іду на захад, я бальшавікоў добра знаю й пад імі ні за што не астануся». Гэтыя словы мне добра запомніліся, бо я не адзін раз была сьведкаю гэтых размоваў.*

*Прайшоў фронт, і ўсё мужчынскае насельніцтва, якое заставалася пад акупацыяй, было забранае на фронт, на перадавую, і амаль ніхто зь іх не вярнуўся. Сьведкам гэтых падзей быў мой хросны В-ль Д. Ён расказваў, як іх гналі перад фронтам праз мазурскія балоты, дзе трупаў ляжалі поўныя канавы, уперамежку рускіх і немцаў, і трэба было ісьці па трупах; раненыя, безь вінтовак і патронаў, галодныя. Строга забаронена было нагінацца, каб падняць якую трафэйную сумку. Галодныя салдаты шукалі перш-наперш ежы, а ззаду — выстрал у сьпіну, і жыцьцё дарма загінула. Вось як яно было. Вынішчалі ўсіх тых, што былі пад нямецкай акупацыяй, лічылі іх «ненадежными» людзьмі. Колькі іх загінула — ні ў чым не павінных людзей?! Аднаму толькі Богу вядома.*

*Калі я запыталася ў хроснага, чаму яны былі бяз зброі, то ён мне растлумачыў так: начальства сказала, што зброю й патроны ім дадуць, як яны прыйдуць да нейкага пункту, а цяпер трэба ісьці, гэта не наўмысьле зроблена, а проста яны выпадкова трапілі ў бой. Але гэтаму ніхто не паверыў, бо гэта было зроблена спэцыяльна. Яны, гэтыя праклятыя бальшавікі, не лічылі за людзей усіх тых, што былі пад акупацыяй. Я знаю многа падобных прыкладаў...*

*Мяне ўвесь час мучыла пытаньне: дзе знаёмыя мне хлопцы й які лёс кожнага зь іх спаткаў? Сякія-такія зьвесткі да мяне даходзілі, але вельмі сумныя. Толькі цяпер, калі я прачытала Вашу кнігу «Змагарныя дарогі», я яскрава ўявіла тыя трудныя й небясьпечныя шляхі, якія яны праходзілі. Я чытала яе з захапленьнем, з сумам і сьлязьмі на вачох. Некаторыя старонкі я прачытвала па некалькі разоў і ўгадвала знаёмых мне вучняў Нясьвіскай сэмінарыі, і як быццам я зь імі перажыла ўсё тое, што зь імі здарылася.*

*Вось чаму я так удзячная Вам, Кастусь, за гэтую кнігу. Я ня знаю, як выказаць Вам сваю павагу, бо слоў удзячнасьці не хапае. Я недасканала ведаю сваю родную мову. Скончыла Менскі Пэдагагічны Інстытут, факультэт расейскай мовы й літаратуры. Я там аказалася не па сваёй волі, бо я падавала заяву на факультэт беларускай мовы й літаратуры. І вось я 33 гады вучыла ў школе. Не вучыла, а калечыла беларускіх дзетак, за што не магу сабе дараваць па сёньняшні дзень, але што зробіш, калі такі быў час (ён і сёньня ня лепшы). Усе размаўлялі на расейскай мове, а беларускую можна было пачуць толькі на вёсках, ды й там вялася мэтадычная русыфікацыя.*

*Я яшчэ раз хачу пажадаць Вам усяго самага найлепшага й сказаць «да пабачэньня», — так, да пабачэньня! Можа так здарыцца, што Вы прыедзеце на Беларусь. Я ад усяго сэрца запрашаю Вас, прыяжджайце! Мы ўсе Вас будзем радыя сустракаць.*

*З павагаю і добрым, шчырым сэрцам да Вас,*

**Ларыса Анішчанка**
*28 сакавіка 1999*

### CONTACTS AND DIALOGUES

Выйшаў першы англамоўны нумар ужо вядомага выданьня Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў «Кантакты і Дыялогі». У нумары зьмешчаны артыкулы Я. Запрудніка "Development of Belarusian Studies in the West", З. Шыбекі "Slavic Solidarity as a Political Concept in Belarus in 1905-1921", А. Грыцкевіча "The collections of the Francishak Skaryna Belarusian Library and Museum in London", дыялёг А. Гапавай з Дэвідам Марплз "Without culture, no statehood will be possible" ды іншыя цікавыя матар'ялы. Кошт гэтага нумару $8, астатнія будуць каштаваць па $7 з улікам перасылкі.

Далейшае выданьне англамоўнага варыянту часапісу можа стацца толькі дзякуючы ахвярнай падтрымцы усіх зацікаўленых у распаўсюджваньні інфармацыі пра Беларусь у вольным сьвеце. Разліковыя рэквізіты: AB Lietuvos Taupomasis Bankas (Lithuanian Savings Bank), Lithuania, SWIFT: TAUP LT 2X, Account No 60111, Beneficiary 2152005491, (address: Vilniaus. g. 16, 2001 Vilnius, Lithuania) для С. Гвазьдзёва. Пералік пажадана падцьвердзіць праз e-mail. Паштовая адрэса: 35-33 Very Kharushai St. Mensk, 220002, Belarus. E-mail: consul@user.unibel.by.

Падтрымайце *Contacts and Dialogues*! Выпішыце для сябе й свайго кангрэсмэна!







*Гэты нумар газэты ілюстраваны каляндарыкамі «Беларуская вайсковая сымболіка XX ст.»*